# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 38 (240) | ГОД VI | БЕЛАСТОК 17 ВЕРАСНЯ 1961 ГОДА | ЦАНА 60 ГР

## СТАЛІЦА






**Змяшчаем артыкул (у скарачэнні) Першага сакратара ЦК КП Беларусі К. Т. Мазурава, які нядаўна друкавала «Праўда».**

# НАТХНЯЮЧЫЯ ЗАДАЧЫ

**К. Мазураў**
**Першы сакратар ЦК КП Беларусі**

Беларускі народ, як і ўсе савецкія людзі, ганарыцца велізарнымі дасягненнямі ў сацыялістычным будаўніцтве. Бо ўсім, што ў нас дасягнута, мы абавязаны роднай Камуністычнай партыі, яе ленінскай нацыянальнай палітыцы, вялікай дружбе народаў СССР. Ніколі ва ўмовах капіталізму нам не дабіцца б такога развіцця прадукцыйных сіл, такога ўздыму эканомікі, культуры і дабрабыту працоўных, ды і наогул цяжка ўявіць нацыянальнае існаванне беларускага народа ў рамках капіталістычнага ладу. Яшчэ паўстагоддзя назад беларускі народ не мог нават марыць аб нацыянальным і дзяржаўным суверэнітэце Беларусі, якая была адсталай ускраінай царскай імперыі, яе аграрна-сыравінным прыдаткам.

А сёння Савецкая Беларусь — гэта паўнапраўная рэспубліка ў згуртаванай сям'і саюзных рэспублік. У развіцці эканомікі і культуры яна можа спаборнічаць з самымі развітымі капіталістычнымі дзяржавамі. Да прыкладу, па выпуску металаапрацоўчых станкоў у разліку на душу насельніцтва Беларусь перавысіла Францыю, Англію, ФРГ, а па выпуску трактараў — ЗША, ФРГ і Англію.

— Дасягнутыя поспехі — добры рубеж, ад якога трэба ісці далей. Беларуская рэспубліка зробіць новы імклівы ўзлёт. К канцу дваццацігадовага перыяду БССР, як і ўся наша краіна, далёка перавысіць узровень вытворчасці на душу

(Працяг на стар. 2)

НАШЫ ІНТЭРВ'Ю

## Свет у вокладках

Шмат, на жаль, ёсць такіх вёсак, пасёлкаў, а нават і невялікіх гарадоў на Беласточчыне, у якіх нялёгка карысна ды культурна правесці вольны час ад прафесіянальных заняткаў. Кіно, калі пастаянна яно працуе, змяняе свой рэпертуар у найлепшым выпадку два разы ў тыдзень. Гэта не можа запоўніць вольныя хвіліны. Зрэшты, аднастайныя забавы хутка пачынаюць нудзіць. Святліцы і клубы рэдка знаходзяцца на Беласточчыне, а тым больш такія, якія б праводзілі жывую, цікаванакіраваную працу. Астаецца тады кніжка. Яна мае быць крыніцай усяго: і забавы, і навукі. Ці так ёсць сапраўды? Ці людзі сябруюць з кніжкамі? Ці гэтае сяброўства пашырае межы невялічкага свету, у якім замкнуты правінцыянальны чалавек?

Дуброва з'яўляецца менавіта гэтакім тыповым пасёлкам, жы-

(Працяг на стар. 5)

## БУДУЦЬ НОВЫЯ ШКОЛЫ

Восенню гэтага года пачнецца будова новай школы ў Баброўніках (Беластоцкі пав.). Гатовы будынак школы мае быць аддадзены ў карыстанне ў 1962/63 школьным годзе. Зараз у Бабро́ўніках працягваецца звозка будаўлянага матэрыялу

Недзе ў канцы 1962 г. або ў пачатку 1963 г. пачнецца таксама будова школьнага будынку ў Зераб'ях.

**Кома**

**Верасень лічыцца месяцам адбудовы Варшавы. У гэтым годзе, як і ў папярэдніх гадах, уся краіна ў гэтым месяцы спалучае асаблівыя пачуцці са сталіцай. Варшава з кожным годам прыгажэе. Адбудоўваюцца помнікі нацыянальнай культуры, знішчаныя гітлераўцамі; будуюцца новыя цэнтры навукі, культуры, жыллёвыя кварталы, заводы. Кожны грамадзянін Польшчы прымае ўдзел у адбудове сваёй сталіцы.**

**На здымках: (уверсе) Палац Культуры і навукі — брацкі падарунак Савецкага Саюза, (унізе) Палац у Лазенках пасля адбудовы.**

Міхась Рудкоўскі

## ПАКІНУТЫ БУСЕЛ

Буслы ўзняліся з поймы у дарогу,
Хвіліна, дзве — над лесам шнур растаў.
А ён нат' не крануўся — доўга - доўга
На парыжэлай купіне стаяў.

Глядзеў услед...
А змрокам, адзінокі,
На ліпу сеў каля гнязда свайго.
І цішыню разрэзаў дзікі клёкат,
Не клёкат — крык надтрэснуты яго.

Ён зваў братоў...
Яму б — пад крылы вецер,
І ў дальні шлях за імі ўслед паплыць...
Відаць, страшней, страшней за ўсё на свеце
Пакінутым усімі быць.





**Вайсковая ганаровая варта каля мемарыяльнага абеліска ў час мінутнай цішыні, якою ўшанавалі памяць загінуўшых.**
Фота З. Зарэмбы.

## У абароне міру супраць фашызму

# НАД МАГІЛАМІ ЗАГІНУЎШЫХ

Верасень у гэтым годзе пагодлівы, прыгожы, як 22 гады таму назад. Але тады пагодлівае асенняе неба засланялі злавесныя, чорныя крыллі нямецкіх самалётаў, якія неслі смерць. Два гады пазней гітлераўскія полчышчы напалі на Савецкі Саюз. Калі на франтах ішлі крывавыя баі, фашысцкія варвары пачалі свой план біялагічнага знішчэння славянскіх народаў і іншых. Каля вёскі Танкелі над Бугам у Сямяціцкім павеце знаходзіўся даўжынёю ў 1 км. супрацьтанкавы роў. Да гэтага рову эсэсманы прывозілі штодзённа сотні ваеннапалонных з лагера, які знаходзіўся ў вёсцы Сухажэбры ў Варшаўскім ваяводстве, расстрэльвалі іх, а затым хавалі, толькі трошкі засыпаючы зямлёю. Расстрэльвалі таксама і цывільных людзей, а нават жанчын і дзяцей.

Расправа працягвалася ад 1 ліпеня да снежня 1941 года. Спачатку ахвяры расстрэльвалі ў адзенні. Потым пачалі раздзяваць. Жыхары бліжэйшых вёсак расказваюць аб спробах уцёку, аб тым, што некаторыя раненыя вылазілі з пяску. Пасля вызвалення ў Танкелі прыехала камісія, якая вымерала даўжыню, шырыню і глыбіню магілы. Падлічылі, што расстралялі там каля 25 тысяч людзей розных народнасцей.

Жыхары Сямяціцкага павета заклалі мемарыяльны абеліск. На адкрыццё абеліска сабралася каля 10 тысяч людзей, перашкодзіць фашызму і вайне.

Сабраныя ўстанавілі рэзалюцыю, у якой поўнасцю саліпарызуюцца з мірнай палітыкай Польшчы і Савецкага Саюза. Сімвалічныя магілы пакрыліся кветкамі. Гарцэры навакольных школ абяцалі апекавацца магіламі, абяцалі быць вернымі тым ідэалам, за якія загінулі пахаваныя жыхараў Беласточчыны і Варшаўскага ваяводства. Прыехалі прадстаўнікі партыйных улад, рад нарадовых, розных арганізацый і Пасольства СССР у Польшчы. Урачыстасці аддаць пашану ахвярам фашысцкага варварства ператварыліся ў магутную маніфестацыю ў абароне міру, супраць адраджэння мілітарызму ў Заходняй Германіі. З прамовою выступіў, між іншым, Сакратар КВ ПАРП у Беластоку тав. Э. Цюрусь. Тав. Цюрусь сказаў, што ўшаноўваем памяць не толькі загінуўшых людзей у Танкелях, але таксама і тых, якія загінулі ў барацьбе з фашызмам ва ўсім свеце. Сакратар Пасольства СССР у Польшчы тав. Шэлеенка сказаў, што польска-савецкая дружба з'яўляецца сілай, якая каля Танкеляў. Помнік каля Танкеляў над Бугам стаяць будзе на стражы адзінства ўсіх людзей супраць фашызму і вайне. **(ЛК)**



**У час мітынгу ў абароне міру каля Танкеляў выступае Сакратар КВ ПАРП тав. Э. Цюрусь.**

# ПАН РУРЫК СТРАШЫЦЬ

ФАЛЬКЛОР БЕЛАСТОЧЧЫНЫ

Жнівеньскае сонца абмывае зямлю, як растопленае жалеза.

Дзед Макар расшпіліў цвёрдую даматканую сарочку і, падняўшы высока белую рэдкую барадку, выгадна выцягнуўся на траве. Настала цішыня. Толькі час ад часу іржалі коні, што побач пасвіліся на лузе, і грухацелі машыны, якія імчаліся шашою ды ціха шумеў ручай. Далёка праз высокія кароны дрэў дзе-нідзе прарэзваліся сялібы вёскі Галады. Сэрца радавалася разнастайнасцю краявіду. Урэшце вочы спыніліся на незвычайным помніку.

Стаяў ён на невялічкім узгорку ля дарогі, што непадалёку маста адыходзіць ад шашы і вядзе ў вёску Мітлашы. Масіўны стоўб, плоска абцёсаны з двух бакоў, вырастаў на вышыню грамаднага вясковага будынка. Па абодвух плоскіх баках зроблены былі глыбакаватыя нішы, у якіх свабодна можна змясціць высокія статуэты. Праз грубыя слоі адшчапіўшагася тынку віднелася чырвоная цэгла. Стоўб закончаны дахам, пакрытым чырвонай чарапіцай. З яго вярхушкі вырастае жалезны крыж.

На дарогах Беласточчыны сустракаў я розныя помнікі, крыжы, алтары ды капліčкі, але такога помніка, якому я зараз прыглядаўся, нідзе не бачыў. Узнікла тады пытанне: адкуль узяўся гэты незвычайны помнік? Хто і калі яго пабудаваў?

Я паглядзеў на дзеда Макара. Мо' ён што-небудзь ведае? Але стары спаў, і мне не хацелася трывожыць яго. Я моўчкі ўзіраўся на аб'ект маёй зацікаўленасці. Раптам дзед Макар засычаў неяк балюча, прысеў і, моцна вылаяўшыся, з размахам стукнуў сябе па адкрытых грудзях.

— Ну ж, укусіла гадзюка, — загаварыў дзед.

— Што гэта за помнік вунь там стаіць? — запытаў я старыка. Дзед Макар пачухаў грудзі, сплюнуў на палец і слінаю нацёр месца, дзе ўкусіла яго якоесьці насякомае. Затым зашпіліў сарочку, паглядзеў на мяне, а потым на гэты помнік і ўрэшце адазваўся:

— Пытаеш, сынок, пра гэты крыж? — дзед кіўнуў галавой у бок гэтай загадкавай будоўлі. — Гэта доўгая гісторыя.

Я хутка працягнуў дзядулі пачак «гевонтаў».

— Ага, значыць, панскія ты курыш. Ну, давай, папрабуем панскага.

Старэча пераламаў папяросу напалам, адну палавінку схаваў у кішэню, а другую ўлажыў у муштук. Пацягнуўшы некалькі разоў, дзядуля зморшчыўся ад непрыемнасці, пачухаў сябе за вухам і сказаў:

— Нікудышнія твае папяросы, па шчырасці табе кажу, слабаватыя; другую палавінку адразу закурваць трэба.

Дзед Макар прагна глытаў дым, не гаворачы ні слова, як бы забыў пра помнік.

— Тады, што з гэтым помнікам, дзядуля? — прыпомніў я яму.

— О, гэта доўгая гісторыя! — паўтарыў старык. — З духамі гэта гісторыя, — дабавіў ён.

Я з цікавасцю наставіў вуха, а дзед Макар, не спяшаючы, пачаў сваё апавяданне, як сапраўдную казку:

— Было гэта даўно, сынок. Яшчэ за паншчыны. Вось усё гэта, што бачым, ды і тое, чаго адсюль не згледзіш — палі, лугі, лясы, вёскі

(Працяг на стар. 4.)

# Чаму няма падручнікаў?

Як вядома, у бягучым годзе ўвялі замкнутую продаж падручнікаў. Гэта значыць, што вучні купляюць падручнікі непасрэдна ў школе ад сваіх настаўнікаў.

У пачатковай, сямікласнай школе ў Дубінах (Гайнаўскі пав.) продаж падручнікаў вядзе настаўнік Янка Смык. Вучні ў Дубінах, як і ўсюды, распачалі першага верасня нармальныя заняткі, але не маглі яны, на жаль, атрымаць падручнікаў па беларускай мове. Аказваецца, што кіраўніцтва школы ў час не запатрабавала гэтых падручнікаў у Гайнаўскай кнігарні.

Спадзяемся, што кіраўніцтва школы ў Дубінах хутка направіць свае занядбанні і ўсе вучні атрымаюць магчымасць купіць падручнікі па беларускай мове. **(вр)**

## Школьныя клопаты

У Дубінах (Гайнаўскі павет) пачало навуку каля двухсот дзяцей. Школа ў іх старэнькая. Пабудавалі яе яшчэ перад першай сусветнай вайной. Цесна ў гэтай школе. Няма дзе хаваць школьных дапаможнікаў і прыладаў.

Пры гэтакіх умовах кіраўніцтва школы вымушана пасылаць некаторыя класы ў звычайныя сялянскія хаты. У гэтым годзе кіраўнік школы дагаварыўся з грамадзянкай Малашкай Авэрчук у тым, што ў яе хаце будзе вучыцца адзін клас. Асталося толькі Прэзідыуму ГРН у Дубінах падпісаць з М. Авэрчук умову, бо меравіта Прэзідыум ГРН абавязан аплочваць нанятую кватэру. Пачаўся аднак навучальны год, а ГРН не аформіла як след патрэбнай школе кватэры.

Каб зразумець нядбайнасць Прэзідыума ГРН у Дубінах няма зусім ніякіх асноў **вр**

— Навасці няўцешлівыя. У Астраўскім шыбеніцу паставілі. Ловяць прахожых і вешаюць, як партызан. Вось, і Арцёма Жыльцова...

— Што Жыльцова? — уздрыгнуў Мінай.

— Павесілі. А з ім дзве настаўніцы, якія трымалі сувязь з вамі... А наконт лістовак ты чуў? Што па ўсіх вёсках расклеілі?

— Аб чым лістоўкі?

— Аб табе, бацька: хто зловіць цябе або заб'е, таму пяцьдзесят тысяч марак. Адначасова і ўсім партызанам папярэджанне: калі хоць адзін нямецкі салдат у раёне будзе забіты, то дзяцей тваіх схопяць і знішчаць...

Мінея хістанула ад гэтай весткі: дзеці! А ўсяго толькі ў мінулую ноч ён сваімі рукамі знішчыў не менш дзесятка гітлераўцаў!

Запінаючыся на кожным слове, Мінай папрасіў:

— Схадзі ў Пунішчы, браток. У Пунішчы і Храпакі... Даведайся, ці

98

жывуць мае? Я буду чакаць цябе ў Верстна...

Ён сеў у лодку, узяўся за вёсла, а ў галаве ўсё гваздала: «Няўжо іх ужо няма? Няма ні Міхася, ні Лізы, ні апошніх?..»

...Рэшту ночы Мінай прахадзіў па хаце Стымбана. На падлозе спалі як забітыя таварышы. На світанні камандзір падняў іх, загадаў збірацца.

— Мы будзем на паляне, дзе дуб, — сказаў ён Стымбану, заглядваючы ў акно, па якому ўсё яшчэ сёк дождж. — Ты, Стымбан, схадзі на базу, прыцягні водкі: інакш адубеем...

Калі сцямнела, ён зноў пастукаў у хату лесніка. Стымбан выскачыў з сеняў:

— Піліпавіч! — сказаў ён нейкім асабліва трывожным голасам, ад якога ў Шмырава перахапіла дыханне, — ідзем у хату, там твой пляменнік...

99

Пад абразамі, на лаўцы, сядзеў сын Капцелава, трынаццацігадовы хлапчук. Убачыўшы Міная, ён кінуўся да яго:

— Дзядзька Мінай, рабяты арыштаваны!

Шмыраў страціў сілы і апусціўся на лаўку. Агромным намаганнем выціснуў з запёкшагася горла:

— Дзе яны? Куды павезлі іх?

— У Сураж, дзядзечка, у Сураж, — усхліпваючы, адказаў хлапчук. — І цёцю Аню! І цёшчу вашу, Шурынаўскую старую...

Мінай доўга маўчаў. Моўчкі сталі і яго сябры. Нарэшце Шмыраў цяжка падняўся на ногі:

— Што ж, таварышы, затрымлівацца больш нам няма патрэбы...

Ён падаў Стымбану руку і ступіў цераз парог. Партызаны моўчкі пашлі за ім. Падняўшы каўняры, яны рушылі за Пудаць, на Вялікі Мох.

(Працяг за тыдзень)

100

 

працяг са стар. 1

хары якога вымушаны цешыцца толькі бібліятэкай і кіно. Кіно гэтае або зусім псуецца, або невыразны вобраз трасецца ў ім на экране, як ліхаманкавы чалавек.

Шукаючы адказу на пастаўленыя вышэй пытанні, наведаў я дуброўскую кнігарню, якая абслугоўвае тут цэлы павет. Змяшчаецца яна ў невялікім, але прыгожым, свежа памаляваным, аднапавярховым, асобным будынку. За прылаўкам — малады прадавец. На ім старанная вопратка: снежнабелая кашуля, гальштук і чорны, быццам святочны, касцюм. Гэта — кіраўнік дуброўскай кнігарні, Мікола Самайлюк.

# СВЕТ У ВОКЛАДКАХ

**— Вы, хіба** — звяртаюся да яго, — **найбольш дакладна можаце акрэсліць размер зацікаўлення кніжкай у тутэйшым раёне Беласточчыны. Ці шмат кніжак купляюць людзі?**

— Зараз, у сувязі з пачаткам навучальнага года, найбольш, зразумела, ідзе школьных падручнікаў і школьнай літаратуры. Школы таксама папаўняюць запасы сваіх бібліятэк. І таму, пачынаючы ад апошняга тыдня жніўня, рух у кнігарні ажывіўся. Дзённы абарот у кнігарні складае каля 10 тысяч зл.

**— Прабачце. Мне аднак хацелася б ведаць, як адбываецца продаж кніжак пры нармальных, так сказаць, штодзённых умовах?**

— Нядрэнна. І тады прадаю шмат кніжак — найбольш у час кірмашу, калі ў Дуброву з'язджаюцца сяляне з усяго наваколля. Нармальна, у адзін дзень прадам кніжак на суму больш-менш — 1500 зл. Калі прымем, што аднак кніжка ў сярэднім каштуе 15 зл, атрымоўваецца, што жыхары нашага павета купляюць кожны дзень каля 100 кніжак.

**— Гэта многа. Тым больш, што не адзін жа чалавек чытае купленую кніжку. Значыць, людзі сябруюць тут з кніжкай.**

— Пры нашых умовах культурнага жыцця кніжка — амаль адзіная пацеха, — заўважае Мікола Самойлюк.

**— Якія кніжкі цешацца найбольшым зацікаўленнем?**

— Цяжка гэта так агульна акрэсліць, бо розныя людзі патрабуюць розныя кніжкі...

**— Напрыклад?**

— Напрыклад, мясцовая інтэлігенцыя — лекары, настаўнікі, працаўнікі павятовых установ — як правіла, больш цікавяцца сучаснай польскай і замежнай мастацкай літаратурай. Часта пытаюць мяне пра творы Шолахава, Хемінгуэя, Стэйнбека. Шмат прадаю твораў тых пісьменнікаў, якія сёння прызнаны ўжо класікамі. На першым месцы знаходзіцца тут Сянкевіч.

**— А сяляне? Ці часта прыходзіцца вам прадаваць кніжкі сялянам?**

— О, так! Перш за ўсё — на сельскагаспадарчыя тэмы: садаводства, пчалярства, рацыянальнага ўгнойвання. Затым, сялян цікавіць ваенная літаратура, асабліва прысвечаная апошняй вайне.

**— Ці ёсць якійсьці асаблівы род кніжак, якімі цікавіліся б толькі дзяўчаты?**

— Хіба так. Жанчыны найбольш купляюць тыя кніжкі, у якіх разглядаюцца справы хатняй гаспадаркі. Вось яны: «Польская кухня», «Дапаможнік крою і шыцця», «Пірог і піражнае». Часта пытаюць пра медычныя кніжкі...

**— Ці не маеце Вы на думцы кніжкі аб, так званым, свядомым мацярынстве?**

— Перш за ўсё — гэтыя кніжкі. Імі, зрэшты, цікавяцца не толькі жанчыны. Вельмі многа гэтых кніжак купляюць школы для сваіх бібліятэк. Купляюць таксама і сяляне.

**— На паліцах у Вас бачу шмат тэхнічнай літаратуры. Хто яе тут купляе?**

— Найбольш моладзь. Асабліва кніжкі аб матацыклах і правілах дарожнага руху.

**— Відаць з гэтага, што нават Вы, у кнігарні, непасрэдна адчуваеце агульнае імкненне да матарызацыі. Ці таксама адчулі Вы якійсьці ўплыў касмічных палётаў на зацікаўленне кніжкамі?**

— Несумненна так! На жаль, няма ў мяне папулярных кніжак па астраноміі, мала таксама аб ракетах і касмічных палётах, якіх патрабуюць маі наведвальнікі пасля гістарычных подзвігаў Гагарына і Цітова. Павялічылася аднак продаж радыё і фотатэхнічнай літаратуры.

**— Народная прыказка сцвярджае, што шавец ходзіць у дзіравых ботах, а кравец не мае добрага касцюма...**

— Хочаце сказаць, — спыняе мяне кіраўнік кнігарні, — што я не чытаю кніжак, так?

**— Паводле прыказкі, так павінна быць.**

— Не, гэта няпраўда! — горача пярэчыць Мікола Самайлюк. — Кніжка — гэта ж для мяне цэлы свет у дзвюх вокладках. Разлажу гэтыя вокладкі і я ўжо — дзе толькі задумаю. Я проста кахаю кніжкі і люблю сваю працу.

Гэтыя словы кіраўніка кнігарні паясняюць прычыны яго святочнай вопраткі, у якой ён прыходзіць да працы і талковы парадак, які з першага позірку заўважаецца ў гэтай маленькай, дуброўскай, правінцыянальнай кнігарні.

Вось менавіта такіх людзей, як Мікола Самайлюк, патрабуюць нашыя вёскі, пасёлкі і занядбаныя гарады, каб падняць культурнае жыццё, каб адзінай пацехай не была толькі гаспода.

А вывад з гэтага інтэрв'ю? Тым, хто плануе культурныя мерапрыемствы, нельга забыць аб вялікім значэнні кніжкі, па якую самародна выцягвае рукі штораз больш людзей. У надыходзячым асенне - зімовым перыядзе гэтая справа мае асабліва важнае значэнне.

**Віктар РУДЧЫК**

## У МАСТАЦКІХ КАЛЕКТЫВАХ



**Выступаюць самадзейнікі з Пілік (Бельскі павет)**
Фота: **Г. Рагазінскі**

# У ВЯЛІКАЙ СЯМ'І НАРОДАЎ

Якуб Колас справядліва адзначаў, што вялікі пясняр польскага народа Адам Міцкевіч у самым поўным сэнсе гэтага слова належыць усяму чалавецтву. І вось гэтая коласаўская думка набывае асабліва выразнага гучання, калі бярэм у рукі каштоўную выдавецкую навінку, якая нядаўна з'явілася ў нашых кнігарнях.

Вроцлаўскае выдавецтва «Асалінэум» выпусціла ў свет багаты збор паэтычных твораў польскіх і замежных аўтараў, якія свае натхнёныя радкі прысвяцілі аўтару «Пана Тадэуша». У першай частцы анталогіі змяшчаюцца вершы суайчыннікаў Міцкевіча, пачынаючы ад яго сучаснікаў — Юлія Славацкага, Багдана Залеўскага, Яна Чачота, а канчаючы Яраславам Івашкевічам і Леапольдам Стафам. У другой частцы чытач знойдзе перш за ўсё вершы славянскіх паэтаў; далей бачым творы аб Міцкевічу нямецкіх, французскіх, італьянскіх, іспанскіх, літоўскіх аўтараў. Знаходзяцца тут нават творы грузінскага, індыйскага і турэцкага паэтаў.

Усіх паэтаў, якія складалі свае творы аб Міцкевічу, спалучае шчырая любоў да польскага песняра, глыбокае адчуванне сэнсу яго творчасці. Гэтыя рысы мусіць найвыразней выяўляюцца ў вершах славянскіх паэтаў. Сярод іх прадстаўлены тут Аляксандр Пушкін, Валеры Брусаў, Павал Антакольскі, Максім Рыльскі, Максім Танк. У анталогіі маем таксама і беларускі твор, толькі адзіны беларускі верш М. Танка п. з. «На Навагрудскай гары» ў перакладзе Станіслава Леца. Змяшчэнне гэтага аднаго верша беларускага паэта аб Міцкевічу выклікае нейкае пачуццё разачараванасці. Ці ж у багатым творчым набытку беларускай паэзіі не знайшлося б больш твораў, прысвечаных вялікаму сыну беларускай зямлі?! Колькі ж іх змяшчаў беларускі савецкі друк у 1955 годзе, калі адзначалася стагоддзе з дня смерці польскага паэта. Прыпамінаецца мне асабліва прыгожы верш Петруся Броўкі «Над Свіцяззю»...

Праз усё жыццё пранёс Міцкевіч у сэрцы дарагі вобраз Навагрудчыны, вобразы родных беларускіх куткоў. І таму трэба было адвесці больш месца ў анталогіі беларускім пісьменнікам.

Анталогія вершаў аб Адаму Міцкевічу — несумненна каштоўная з'ява. Яна яшчэ лішні раз сведчыць, што неўміручая паэтычная спадчына польскага генія з'яўляецца ўласнасцю ўсіх народаў, якія прынялі яго ў сваю вялікую сям'ю.

**Мацей Канапацкі**

была падшытая, яна жанчына справядлівая і верная свайму законнаму мужу. Ніякімі прыманкамі не мог пан звясці яе. Аднойчы, калі пан Рурык захацеў паканаць яе сілай, Фроська пакусала яму рукі і фанары аставіла пад вачыма. Гэта давяло яго да вар'яцыі. Ён не мог даравець, каб простая, мужыцкая баба асмелілася супрацьпаставіцца яго дваранскай волі. Незадоўга па загаду пана, Грыца, без чаргі і лёсаў, забралі казакі ў салдаты. Фроська асталася адна. Дзяцей у іх яшчэ не было.

Пасля нейкага часу, пагадзіўшыся са сваім лёсам, Грыц стаў паслухмяным, вынослівым салдатам. Ефрэйтары і фельтфебелі ставілі яго як прыклад другім. Тым часам выбухнула турэцка-руская вайна. Грыц пайшоў на фронт. Гавораць, што ў час бою за Севастопаль Грыц выратаваў ад смерці якогасьці вельмі важнага афіцэра высокага рангу. За гэта прышпілілі яму нейкі крыж і на паўгода адпусцілі дадому на адпачынак. Грыц не бачыў сваёй жонкі звыш пяці год. А лісты, якія атрымоўваў вельмі рэдка, прыносілі ненайлепшыя весткі.

Трывожна хвалявалася Грыцава сэрца, калі ён сярод цёмнай ночы набліжаўся да сваёй хаты пасля двумесячнага вандравання з Крыму. Доўга Грыц стукаў у акно і клікаў жонку. Урэшце хтосьці адчыніў дзверы. Грыц увайшоў у святліцу і разгублена стаяў пасярэдзіне пакоя. Апрача начной цемры ён нічога не бачыў. Ніхто яго не вітаў, не сустракаў. Сэрца Грыца забілася яшчэ больш трывожна. Хтосьці прайшоў па пакоі і пачаў раздзьмухваць застыўшыя вуглі ў печы.

— Фроська, гэта ты? — запытаў Грыц.

Ніякага адказу не было. Грыц шагнуў наперад і рукамі зачапіўся за якійсьці кошык, штосьці закалыхалася перад ім і пачуўся дзіцячы плач.

Тым часам разгарэлася лучына і ў хаце стала ясней. Перад Грыцам пасярэдзіне святліцы вісела калыска, а ў ёй маленькае дзіця. Фроська стаяла ля печкі і вачамі прабівала хатні ток.

— Чыё гэта?! — забыўшыся ўжо аб прывітанні, востра запытаў Грыц жонку, паказваючы на калыску.

Плечы Фроські затрасліся ад плачу. Яна кінулася мужу да ног і загаварыла праз слёзы:

— Грэшная я перад табою! Але не магла абараніцца. Ён сілай, гэты гад... Ой, Грыша, Грышанька, што я перацярпела, што я перажыла тут! Бі, забі мяне!

Грыц моўчкі паглядзеў на жонку, нагой адкінуў яе ад сябе і без слова сеў за стол. Фроська паднялася з зямлі і падышла да калыскі, каб супакоіць дзіця. Грыц тупым, нядобрым позіркам сачыў за ёю. Урэшце загаварыў:

— Дай есці!

Пад'еўшы, насунуў шапку на вушы і без слова вышаў з хаты. Куды накіраваўся, ніхто не ведаў. Толькі пасля некалькіх дзён пайшла па наваколлі трывожная вестка: «Грыц забіў старога дзедзіца, пана Рурыка, і падпаліў яго палац!» — паўтаралі людзі. Жандармы і казакі доўга шукалі Грыца. Урэшце ўдалося ім злавіць яго, і Грыц пайшоў у Сібір на вечную катаргу, а жонка яго, Фроська, разам з панскім насеннем скочыла з мосту і ўтапілася.

Дзед Макар акінуў мяне дапытлівым позіркам, як бы хацеў праверыць, якое ўражанне выклікала ў мяне яго апавяданне.

Потым памаўчаў хвіліну і сказаў:

— Вось да чаго прыводзіць прыгажосць.

— Ну добра, але прычым тут гэты помнік? — запытаў я.

— Помнік, кажаш? А гэта далейшая гісторыя. Раней нам трэба закурыць сынок.

Пакурыўшы, як след, дзядуля прадаўжаў:

— Панам у Навадворах, пасля смерці бацькі, стаў яго сын, малодшы Рурык. Той аднак мала дбаў пра гаспадарку. Амаль пастаянна сядзеў у горадзе. Але аднойчы, як талкавалі людзі, прысніўся яму ракавы сон. Ноччу прышоў да яго бацька, адкрыў грудзі і кажа: «Бачыш, сын ты мой нягодны, гэтую крывавую рану на сэрцы маім? Ты жывеш, гуляеш, аба мне забыў, а я кроўю заліваюся. Калі хочаш майго спакою, пастаў крыж там, дзе зямля прасякнута маёй кроўю, і маліся за ўпакой душы маёй грэшнай». Паслухаў юнак бацькавага загаду і пабудаваў вось гэты помнік, і сто пакутлівых богаслужэнняў заказаў у касцёлах цэлай акругі, і сам шчыра маліўся. Аднак усё гэта не супакоіла душы старога Рурыка. Ён яшчэ і зараз штоноч выходзіць з рэчкі, ідзе пад гэты помнік і сядзіць там аж да світання, чакаючы на сваю ахвяру. Гэты Рурык, хай яго трасца, нават пасля смерці застаўся вельмі ласы на жанчыны.

**ВІКТАР РУДЧЫК**



 

# З ВЫШЫНІ КАСМІЧНАГА ПАЛЁТУ



Савецкі касманаўт 2, Герман Цітоў, адпраўляючыся ў касмічны палёт, узяў з сабою рэпарцёрскі кінаапарат і спрабаваў праз ілюмінатары кабіны зрабіць здымкі Зямлі і неба.

На гэтым здымку ўдалося Цітову адлюстраваць пукатасць нашай планеты і арэол, якім яна абвакалена. Гэты арэол — далікатнагалубога колеру і праз бірузовы, сіні, фіялетавы пераходзіць да цалкам чорнага неба.

## Бялявыя, рыжыя, брунеты

Адзін нямецкі вучоны падлічыў, колькі валасоў можа быць на бялявай галаве, колькі на чорнавалосай, на рыжай, на каштанавай. Выявілася, што ў бялявых людзей валасоў больш, чым ва ўсіх апошніх. У сярэднім на галаве іх каля 140 тысяч. Бялявыя валасы — самыя тонкія і самыя моцныя. Яны не трацяць эластычнасці ад паветра і вільгаці. Брунеты маюць у сярэднім 109.440 валасоў на галаве, а рыжыя — толькі 88.740. Гэта і зразумела: дык рыжыя і цёмныя валасы шмат грубейшыя і цвярдзейшыя чым бялявыя.

Нямецкія вучоныя сцвярджаюць, што большая частка зямнога шара заселена чорнавалосымі. Бялявыя жывуць толькі ў межах Еўропы. Раогул жа ў Еўропе жывуць людзі з самымі рознымі колерамі валасоў; часам і на поўначы сустракаюцца жанчыны з чорнымі валасамі, а на поўдні — бялявыя, але гэта можна лічыць выключэннем.

## НАРОДНАЯ МЕДЫЦЫНА

# ЯТРЫШНІКІ

**Руская назва: ятрышнік.** Травяністая, шматгадовая расліна, якая штогод утварае каранёвыя клубні. Леташнія клубні звычайна адміраюць. Вышыня сцябла ў залежнасці ад віда ятрышніка — 8—60 см. Лісце прадаўгаватае або акруглае. Кветкі сабраны ў рыхлы колас - пэндзаль. Цвіце ў залежнасці ад віда — з мая, у чэрвені, ліпені.

Адрозніваюць больш за 23 віды ятрышніка. Найбольш распаўсюджаны ятрышнік шлемавідны, які расце на вільготных лугах, лясных палянах; клубні ў яго прадаўгаватыя. Ятрышнік мужчынскі расце на сырых лугах; клубні ў яго шарападобныя.

Збіраюць маладыя клубні ятрышніка ў канцы лета. Іх мыюць, нанізваюць сырымі на нітку і трымаюць 3—4 мінуты ў вары, пасля вымаюць і падвешваюць у сухім месцы (на гарышчы). Добра высушаныя і несапсаваныя клубні маюць жаўтаваты або шэра-жоўты колер, шклопадобныя.

У народзе рэдка карыстаюцца клубнямі ятрышнікаў для лячэбных мэт. Розныя знахары іх, відаць, прымянялі як сродак супраць палавой немачы і для ўзбуджэння палавога юру. Аднак да клубняў ятрышніка прыцягвае ўвагу іх высокая пажыўнасць і багацце слізізу (як абвалакваючае).

Трэба сказаць, што эмульсія з клубняў ятрышніка — вельмі неабходны сродак для падтрымання сіл у лядашчых старых, у туберкулёзнікаў, у людзей, што перанеслі цяжкія і працяглыя крывацёкі (у тым ліку гемарой), страціці сілу і здароўе пасля цяжкіх паражыванняў. У клубнях ятрышніка, параўнальна малых па аб'ёму, накапліваецца магутны канцэнтрат пажыўных рэчываў.

Клубні ятрышнікаў добра захоўваюцца ў бляшанках; ад сырасці і святла яны хутка чарнеюць і трацяць свае якасці.

## ПАРАДЫ

# ЗАСОЛ ГРЫБОЎ

Грыбы, прызначаныя для засолу, трэба перш за ўсё перабраць, адрэзаць корані на адлегласці 0,5 см ад шапкі, самыя буйныя з іх разрэзаць на дзве - тры часткі і старанна прамыць у халоднай вадзе. Рыжыкі і апенькі трэба саліць адразу ж пасля збору. Груздзь, бяляні, ваўнянкі, свінушкі і чарнушкі перад засолкай вымачваюць на працягу двух - трох дзён у халоднай вадзе, мяняючы яе штодзённа па некалькі разоў. У хатніх умовах грыбы замест вымачвання ў халоднай вадзе адварваюць у падсоленым кіпецені, здымаючы пену, якая ўтвараецца на паверхні. Падгрузды, лісічкі, смаржкі трэба адварваць не менш 20 мінут, астатнія белыя грыбоў — 8—10 мінут. Такія грыбы, як баравікі, падбярозавікі, падасінавікі, рыжыкі і апенькі, можна не адварваць.

Адвараныя грыбы адкідаюць на рэшата, ахалоджваюць вадой і склaдаюць у шкляныя або гліняныя абліўныя слоікі. На дно іх папярэдне насыпаюць слой солі і засцілаюць яго лісцямі чорных парэчак. На 1 кг груздоў, ваўнянак, сыраежак бяруць 50 г. солі, а на 1 кг рыжыкаў — 40 г.

Грыбы ўкладваюць радамі, шапкамі ўніз, перасыпаючы кожны рад соллю. Для смаку можна пакласці перац, лаўровы ліст, часнок. Шчыльна пакладзеныя ў слоікі грыбы пакрываюць слоем лісця чорных парэчак, а затым чыстым палатняным шматком. Зверху кладуць драўляны, добра прыгнаны кружок, а на яго які-небудзь груз. Праз два - тры дні грыбы асядуць і дадуць сок, які пакрые драўляны кружок.

Калі для засолкі ўзят вельмі вялікі посуд, то грыбы ў яго без шкоды для якасці засолу можна дадаваць паступова, па меры збору.

Салёныя грыбы трэба захоўваць у халодным месцы і сачыць, каб не паяўлялася плесні. Час ад часу шматок і кружок трэба прамываць у гарачай, злёгку падсоленай вадзе.

Для засолу невялікай колькасці грыбоў можна ўжыць яшчэ і такі спосаб. Наліць у каструлю паўшклянкі вады (на 1 кг грыбоў) і дадаць 2 сталовыя лыжкі солі. Калі вада закіпіць, пакласці ў каструлю падрыхтаваныя грыбы, 1 лаўровы лісток, 3 гарошыны перцу і столькі ж гваздзікі, 5 г. кропу, 2 лісты чорных парэчак, часнок.

Грыбы вараць 20—25 мінут (сыраежкі і ваўнянкі — крыху менш). Калі яны асядуць на дно, а расол стане празрыстым, кіпячэнне спыняюць, даюць грыбам астыць і раскладваюць па слоіках так, каб расол пакрываў грыбы.



ДОБРАЙ РАНІЦЫ

## ГЭТАМУ БОЛЬШ НЕ БЫЦЬ!



На здымку: адзін з польскіх аэрадромаў, збамбардзіраваных у першыя дні вайны. У выніку здрады польскія самалёты не падняліся з зямлі да барацьбы з ворагам.

# НА ДАЖЫНКАХ

— Пакаўбасілі ўсю справу, таварышы! Вызначаеце дэлегатаў на свята ўраджаю з гэса і прэзідыума. Хочаце прывезці на дажынкі чыноўнікаў. А свята ўраджаю арганізуецца для земляробаў - перадавікоў, — распякаў працаўнікоў прэзідыума кіраўнік аддзела сельскай гаспадаркі з павета.— У Шэпятове, — цягнуў ён, — сяляне паказальную ворку пабачаць, ураджайныя экспанаты з другіх паветаў разгледзяць, а чыноўнікам глядзець там няма чаго. Дык вось, раю адкруціць з дэлегатамі чыноўнікамі, пакуль вас не прыкруцілі.

З гэтымі словамі кіраўнік сельскай гаспадаркі ад'ехаў, а дзядзька Сцяпан знайшоўся ў спісе дэлегатаў на ваяводскае свята ўраджаю.

Прыехаў Сцяпан у Шэпятова, а тут людзей, як мурашак у мурашніку. Красна вясна кветкамі, а восень снапамі. Мабыць таму ганаровую трыбуну дажынак убралі жытам. Глядзіць Сцяпан на роўненькія снапы жыта і здаецца яму, што паясніца яшчэ ные ад жніў.

На трыбуне перад снапамі ваяводскае начальства сабралася, сялян-дэлегатаў вітае. Значыць, заслужыла хлебаробная праца на паважанне.

На стадыёне гандлёвыя палаткі выраслі і прадаюць тут розную ўсячыну, чаго душа захоча.

Пакруціўся Сцяпан сярод людзей, на сельгасмашыны паглядзеў ды накіраваўся ў карчы пераабуцца. Выбірае сабе корчык трохі прыгажэйшы, глянь, аж тут сусед Якуб разваліўся. Хлебча Якуб, сукін кот, гарэлку, так сказаць індывідуальным парадкам, ды крутымі яйкамі закусвае.

— Здароў сваяк! Як гэта гаворыцца: гара з гарою... а ты, Якуб, з вогненнай вадою. Што ж гэта ты як басурманін заліваешся ў аблічы ўраджайнага свята?

— Ад сораму п'ю, дружа, — адказаў Якуб. — За людзей нашых сорамна. Яны ж набралі вясной з дзяржаўнага фонда кукурузных зярнят на пасеў 4 тысяч гектараў, а засеялі ўсяго толькі тысячу. Рэштай зярнят свіней частавалі, і бач атрымалася свінства.

— Не прыму на сябе граху, каб з новага ўраджаю паспеў? — спытаў ён грозна.

—Дык ты што, ад сораму карчом прыкрываешся? — запытаў Сцяпан.

— Ад падвойнага сораму. Тут сорамна, а на «Стадыёне дзесяцігоддзя» яшчэ больш будзе. Я ж дэлегатам на дажынкі ў Сталіцу, — высніў Якуб.

— Ці ж у вашай вёсцы не знойдзецца не пітушчых дэлегатаў? — ядавіта запытаў Сцяпан.

— Пі, ды розуму не прапівай. У мяне, браток, такая канструкцыя, што ніякая гарэлка з ног не зваліць. Хочаш, дык на адной назе заскачу, — прапанаваў Якуб і, намагаючыся зрабіць гэта, на спіну паваліўся.

— Зямное прыцяжэнне дзейнічае, — заўважыў Сцяпан і, падняўшы з зямлі пустую бутэльку, панюхаў.

— «Сівухай» заносіць. Відаць з новага ўраджаю. Самагон гэты з кукурузных зярнят. Я ж таксама ўсіх зярнят не высеяў, — прызнаўся Якуб.

Забыўшыся пераабуцца, Сцяпан зашагаў далей ад сваяка.

Людзі добрыя, — трапляюцца яшчэ ў нас грамадзяне, якія гавораць аб сумленні, а зусім без сумлення паступаюць. Сумленне, як не залівай, а ўсё роўна яго не ўтопіш.

*Дзядзька Лявон*




— Берлін? Вось ён. Але калі вы не зыдзеце з гэтага шляху, то ён закончыцца для вас Сталінградам.
Малюнак Жана Эфеля з французскай газеты «Юманітэ-дзі манш».

## ПЕРАХОД

Адзін чалавек, які вельмі любіў цішыню і спакой, жыў паміж кавалём і слёсарам. Калі ад скрыгату піл і стуку малатка пачало яму ў галаве шумець, ён паклікаў суседзяў і паабяцаў ім, што калі пяройдуць яны ў другое месца, то ён іх узнагародзіць.

Прайшло некалькі дзён. Прыходзяць да яго каваль са слёсарам і заяўляюць:

— Пераходзім, калі ласка, давайце ўзнагароду.

Узрадаваны гаспадар тут жа ўзнагародзіў іх і пытае, куды яны пераходзяць.

— Я пераходжу да каваля, — адказаў слёсар, — а ён да мяне.

**Аляксей Шаховіч**
Сакі

## ВЕДАЕ

— Ну, дык ты ж сапраўднае парася, — кажа бацька да трохгадовай дачкі, якая ўся вымазалася ежай.

— Ага, — згаджаецца дачка.

— А ці ты ведаеш, што такое парася? — пытае бацька.

— Ведаю, — адказала дачка. — Гэта дзіця вялікай свінні.

**Мікалай Петручук**
Сакі




## У КРАМЕ

Кліент: — Дайце, калі ласка, мне віно ў крэдыт.
Прадаўшчыца (падаючы віно): — Але вы заўсёды доўга грошай не аддаеце.
Кліент: — Не бядуйце пра грошы. Гэтым разам я вам на каляды адспяваю.

**Віктар Сцепанюк**
Давідавічы



## БЯДА

Міколка, аднойчы наеўшыся мяса так, што аж забалеў жывот, пытае ў бацькі:

— Скажы, татка, ці на цэлым свеце ёсць мяса?

— Вядома, што ёсць! — адказвае бацька.

— Ну, дык бяда, прапалі людзі, — кажа Міколка.

**Янка Зданоўскі**
Альхоўка

## ЧЫЙ БАЦЬКА ЛЕПШЫ

Два хлапчукі спрачаюцца.

Першы: — Мой бацька багаты.

— Другі: — А мой разумны.

Першы: — Мой бацька пазычыў твайму грошы.

Другі: — А мой не аддасць.

**Зэнка**






### ЗНАЙДЗІ

**Па якой трапінцы павінна прабірацца куранятка, каб знайсці маці — квактуху і не трапіць у зубы хітрай лісы?**

Эдуард Валасевіч

## Дзед пайшоў у сваты

(Жарт)

Дзед пайшоў к суседу,
Сеў стары, бядуе:
— Ўпадабаў кабету,
Браце, маладую...

— Не бядуй, дзядусю:
Бедаваць пасцееш...
Бараду збрый, вусы —
Ўраз памаладзееш!

Дыбаў наш нябога
У сваты. Бадрыўся!
Ды на паўдарозе
Дужа прытаміўся...

Сеў ён пад сасонку,
Развражыў цвяроза:
— А на ліха жонка?
Ці ж я страціў розум?

Стане цалавацца,
Ды яшчэ укусіць,
На ігрышча рвацца,
І мяне прымусіць...

Дзед — назад дахаты...
Сеў і зажурыўся:
— Быў я барадаты,
Блазнюком зрабіўся...

# СІНІ КАПЯЛЮШ

Каб не людзі вакол, Васіль Пацерка аблаяў бы гардэробшчыцу апошнімі словамі. І было за што: перад пачаткам нарады аддаў ён на захаванне свой капялюш, а вярнула яна капялюш нямa ведама з чыёй галавы. Пацеркаў капялюш быў, праўда, не новы, ну а гэты зусім нікуды не варты: выцвілы, зашмальцаваны.

— Мусіць, дарэмна табе, дзяўчына, грошы плоцяць! — абурыўся Пацерка, грэбліва насоўваючы чужы капялюш на сваю шышкаватую галаву. — Ёсць жа ягоднікі, — лаяўся ён. — Толькі і пільнуюць, каб свае неданоскі на лепшае замяніць. Але я чалавек настырны, свой капялюш і пад зямлёй знайду. Міліцыю на ногі падніму...

Прыйшоў Пацерка дадому і пачаў скаргу пісаць. Кожная старонка, кожны радок агнём пыхалі. І толькі калі ўтаптаў дробна спісаныя аркушы ў канверт, на сэрцы крыху палягчэла.

Раптам зазваніў тэлефон.

— Ну, каго трэба? — адазваўся Пацерка.

— Таварыш Пацерка? — зазвінеў у трубцы жаночы голас. — Гэта з трэста, з прыёмнай дырэктара... Кажуць, вы замяніліся з Апанасам Фамічом капелюшамі.

— З Апанасам Фамічом? — ледзь не абамлеў Пацерка. — З дырэктарам трэста?

— Зараз прышлю кур'ера...

— Навошта... я сам... сам прынясу... Бягу... Лячу...

Аглушаны такім неспадзяванкам, Пацерка з глыбокай пашанай узняў капялюш, здзьмухнуў з яго пылінкі.

— Апанаса Фаміча... Самога Апанаса Фаміча капялюш...

— І калі таксі імчала Пацерку праз увесь горад, і калі ўзрушаны ўбягаў у трэстаўскі вестыбюль, усё яшчэ не мог паверыць таму, што здарылася.

— Да Апанаса Фаміча можна? — запытаў у сакратаркі Пацерка. — Я... той самы Пацерка, што...

— Што капелюшамі з Апанасам Фамічом замяніліся? — адарвала вочы ад кнігі дзяўчына. — Пачакайце крышку, у Апанаса Фаміча нарада.

Сакратарка перагарнула не адну старонку, пакуль, нарэшце, дзверы дырэктарскага кабінета адчыніліся і ў прыёмную высыпалі ажыўленыя, узмакрэлыя людзі. Апанас Фаміч апошнім паказаўся на парозе.

— Тут да вас таварыш, — усхапілася сакратарка. — Той самы, з капелюшом...

— Дык гэта ваш капялюш я згроб? — павярнуўся да Пацеркі дырэктар. — Вы ўжо прабачце...

— Што вы, што вы, Апанас Фаміч, — замахаў рукамі Пацерка, падаючы капялюш. — А я гэта гляджу ўчора, быццам мой і не мой капялюш... Мой старэнькі, а ваш нібы ўчора з магазіна... Плямачка толькі вось аднекуль узялася, дык вычысціў я... І, ведаеце, завялікі крыху мне. Мусіць, ваша галава большая... І разумнейшая...

Хоць прайшло нямала часу, але Пацерка і сёння адчувае дырэктарскі поціск рукі, не праміне, каб не расказаць аб гэтым выпадку:

— На галаве самога Апанаса Фаміча быў мой капялюш... Гэта Апанас Фаміч вось так чаўнаком яго зрабіў... І ведаеце, мне вельмі да твару — чаўнаком...

**ІВАН АНОШКІН**